Погляд

# Няма горшага пана, чым вясковы хам-старшыня

Вяртаўся неяк з камандзіроўкі і за Докшыцамі падабраў на дарозе жанчыну, якая папрасіла падвесці да сваёй вёскі. Крыху сагрэўшыся ў салоне легкавушкі, яна ахвотна ўступіла ў размову. Пакуль даехалі да ейнага саўгаса "Сітцы" з прыкметнай крыўдай у голасе расказала пра сённяшняе нялёгкае жыццё вяскоўцаў. Найбольш прэтэнзій у людзей, зазначыла субяседніца, назбіралася да дырэктара гаспадаркі, які пра рабочых не думае, а ўсё больш пра сябе. "Саўгас бедны, сядзіць без грошай, — абуралася жанчына, — а ён, кіраўнік, патраціў некалькі соцень мільёнаў рублёў на пакупку сабе аўтамашыны "Волга"..."

Толькі паспачуваў тады неспадзяванай субяседніцы, але не мог уявіць, наколькі падобныя з'явы распаўсюджаны ў застаўшайся нерэфарміраванай беларускай вёсцы. Сёння ўжо не сакрэт, што з амаль двух з палавінай тысяч калгасаў і саўгасаў краіны каля 800 гаспадарак сталі эканамічна безнадзейнымі і многіх з іх ужо ніхто не выратуе. Як правіла, падобных кіраўнікоў хвалюе зусім іншае. Ведаю аднаго ў суседнім Пастаўскім раёне. Ён таксама набыў сабе новую "Волгу" і мае звычку паганарыцца, што купіў аўтамабіль лепшы, чым у старшыні райвыканкама В.Чэпіка. Адначасова старшыня і скардзіцца, што гэтай пакупкай яго ў раёне папракаюць...

Летась два калгасы ў Аршанскім раёне з характэрнымі для краіны назвамі "Чырвонае аб'яднанне" і імя Дзяржынскага займелі сабе новых кіраўнікоў. Як і многія іншыя сельскія начальнікі апошніх кадравых перастановак, і гэтыя на тэрыторыі гаспадарак не жывуць, кіруюць "наездамі" з горада. Абодва пачалі сваю дзейнасць з таго, што купілі сабе па новай, што смешна, таксама "Волзе", якая тады каштавала больш за 400 мільёнаў рублёў. Не паглядзелі новыя калгасныя дзеячы, што сума даўгоў "Чырвонага аб'яднання" складала на той момант два, а ў іх калег-дзяржынцаў — больш за 2,5 мільярда рублёў.

Пра сваіх работнікаў ніхто і не думаў клапаціцца. У першай названай мною гаспадарцы сярэдні заробак складаў толькі 647 тысяч рублёў і яго затрымлівалі выплачваць, што стала нядобрай традыцыяй на вёсцы. Людзі маўчалі да таго часу, пакуль у некаторых засталіся няўбранымі ўласныя прысядзібныя ўчасткі, занятыя збажынай. Пачалі абурацца і скардзіцца, калі ім не далі магчымасці пусціць на ўласныя лапікі калгасны камбайн.

Не стану працягваць пералік падобных гісторый з шыкарнымі аўтамабілямі, папоўніўшымі вясковыя гаражы, хоць ведаю іх багата. Ды я не ў праве забараняць нікому прыгожа жыць і ўмела кіраваць. Пачаткі саноўнай бюракратыі ёсць у любой арганізацыі, у любой краіне. Але ж жывуць там звычайна па сродках. У сённяшніх аслабеўшых беларускіх калгасах і саўгасах чамусьці іншыя тэндэнцыі пачынаюць браць верх. Паглядзіце на любую цэнтральную плошчу сельскага раёна ў той дзень, калі праходзіць сесія або чарговая нарада. Побач з домам саветаў прыпаркоўваюцца дзесяткі шыкоўных аўтамабіляў, на якіх прывезлі аграрных камандзіраў. Цаны б ім не было, каб гэтак жа прыгожа выглядалі паказчыкі іх працы: высокія надоі, паўнавесныя прывагі жывёлы, багатыя ўраджаі. І нарэшце, каб тыя, хто ўсяго гэтага дабіваецца ў цяжкай, знясільваючай працы, своечасова маглі атрымаць добрую зарплату.

На практыцы ўсё ў нас зусім не так выглядае. Калектыўныя гаспадаркі даўно ўжо не апраўдваюць сваю назву. Ніякага калектыўнага праўлення, сумеснага вырашэння надзённых спраў у сённяшняй вёсцы даўно няма. За іх думаюць і даюць бясконцыя ўказанні ў раёне, горадзе, вобласці, ва ўрадзе і ў прэзідэнцкай адміністрацыі. Астатняе вырашае сам старшыня, дырэктар. У лепшым выпадку ў акружэнні найбольш прыбліжаных асоб. Таму сёння не адна такая "Волга" стаіць на цэнтральных сядзібах гаспадарак. А ці параіўся хто з сельскіх кіраўнікоў з хлебаробамі, або з праўленнямі наконт мэтазгоднасці гэтых ці іншых пакупак? Не раяцца яны і па больш важных надзённых пытаннях.

Вядома, уладзе зараз няпроста падабраць новых талковых кіраўнікоў у многія кульгаючыя на абедзве нагі гаспадаркі, хоць кадравае абнаўленне і нейкая дапамога дзяржавы прадугледжваюцца ў першую чаргу. З іншага боку і сяляне ўсё яшчэ спадзяюцца, што нешта можа змяніцца да лепшага ў іх жыцці з прыходам старшыні, які б клапаціўся аб людзях. Сапраўды, такое зрэдку здараецца. Аднак на вёску талковы спецыяліст зусім не рвецца. У тым жа Аршанскім раёне два гады не маглі падабраць чалавека на пасаду начальніка райсельгасхарчу, пакуль сюды не згадзіўся перайсці Васіль Гароднікаў, які за 13 гадоў працы старшынёй калгаса імя Куйбышава добра зведаў, які гэта нялёгкі хлеб. А яму яшчэ прыйдзецца вырашаць і такую галаваломку, дзе адшукаць 52 галоўныя спецыялісты, якіх не стае на месцах. А наогул на Віцебшчыне праз некалькі гадоў будзе сапраўдны дэфіцыт упраўленцаў, бо больш паловы кадраў выходзяць на пенсію.

Апошнім часам у Беларусі ўжо паспрабавалі адным махам вырашыць гэту праблему. За першыя два гады прэзідэнцтва Лукашэнкі па краіне было заменена больш трэці сельскіх кіраўнікоў. Толькі ў многіх выпадках марнымі аказаліся надзеі вяскоўцаў на цуд.

Адзінокая пенсіянерка з невялічкай вёсачкі Логавінцы Пастаўскага раёна, радзімы, дарэчы, дэпутата "кішэннай" палаты прадстаўнікоў П.Розынкі, упершыню ў мінулую зіму засталася без сена і ўжо вырашыла пазбавіцца сваёй карміліцы-кароўкі. Новы старшыня А.Сурын, якога прывезлі з райцэнтра дзеля выратавання некалі славутай гаспадаркі, адразу ўстанавіў жорсткія парадкі. Сенакосы для людзей пачалі выдзяляцца толькі пад здадзенае малако. Карова ў беднай жанчыны ацялілася позна, гаспадыня не паспела сабраць неабходную колькасць сырадою, таму на просьбу аб дапамозе новы кіраўнік калгаса "Сцяг перамогі" адрэагаваў у звыклым для сябе стылі. Паколькі ні на якіх палявых работах ён пенсіянерку не бачыў, то парэкамендаваў разлічваць старой на каго-небудзь іншага.

Ды каб адзін такі старшыня быў. Вунь колькі людзей паскардзіліся мне апошнім часам, што іх родных матуль і бабуль і ў 70, і ў 75, і нават у 80 гадоў прымушаюць сёлета ўзяць даглядаць дзялянкі буракоў. У іншым выпадку нельга будзе разлічваць на атрыманне сенакосу. Рэдка які кіраўнік, колькі іх ні выкрывай за падобныя адносіны да людзей, за язду на шыкарных аўтамабілях куды ўздумаецца, ад сораму пачырванее, падасць у адстаўку. Ды гэта яму і не дазволяць зрабіць.

Зусім не жадаючы кінуць цень на ўсіх, усё ж зазначу, што ў многіх на вёсцы на першым месцы службовая кар'ера, добра абстаўлены кабінет, як і чатырохмільённы аклад з дадатковымі надбаўкамі і прэміямі. Згода з існуючай палітыкай улады і службовае рвенне выконваць яе задачы гарантуюць сельскага кіраўніка ад усялякіх непрыемнасцей. Пакараюць тады, калі ўжо зусім распусцішся, як гэта зрабіў былы дырэктар саўгаса "Заазёрскі" Гарадоцкага раёна, які ўкраў у гаспадаркі запчастак на 27,5 мільёна рублёў. На лаве падсудных на чале з кіраўніком апынуліся і чатыры галоўныя спецыялісты, якія рознымі махінацыямі нанеслі ўрон калгасу "Камінтэрн" Шаркоўшчынскага раёна на некалькі соцень мільёнаў. Наогул жа летась на Віцебшчыне па такіх негатыўных момантах было распачата 77 крымінальных спраў.

І гэтаму не трэба здзіўляцца, бо аджыўшая сваё эканамічная сістэма на вёсцы, за столькі гадоў адняла ў людзей пачуццё сапраўднага гаспадара. Яна паранейшаму дазваляе кіраваць сярод іншых розным камбінатарам, ілгунам, "чырвоным памешчыкам" па трапным выразе вядомага палітыка С.Шушкевіча. За гэта выказванне Савет калгасаў Міншчыны, а за ім і арганізацыя Саюза аграрнікаў Віцебскай вобласці збіраліся падаваць у суд на тагачаснага старшыню Вярхоўнага Савета. Але і сёння падобная характарыстыка асобным прадстаўнікам старшынёўскага корпусу яшчэ як пасуе.

**Уладзімір ШЫК.**
Віцебская вобласць.

Позиция

# Хватит бояться!

Прочел как-то в вашей газете письмо с вопросом о родословной президента — письмо без подписи: автор побоялся ее поставить. А почему, спрашивается, побоялся? Вопрос-то безобидный...

Многие беды наши оттого, что мы всего боимся и даже не пытаемся освободиться от страха. Привыкли к нему за десятилетия "социализма". Привыкли к тяжелым условиям жизни, держимся, извините, как овцы в хлеву во время пожара — не вывести, не выгнать.

Что только не пережило старшее поколение: изведало голод и холод, войны и нищету. Кажется, нет на земле таких мук, какие бы не выпали нам на долю.

Я ребенком перенес ужасы военного лихолетья. На моих глазах гитлеровцы расстреляли мать за связь с партизанами, во время расстрела ранили меня. На моих еще не окрепших руках подростка (отец погиб в партизанах) остались младшие брат и сестра. Было тогда не до учебы, надо было работать, чтобы как-то продержаться...

Подобная судьба у тысяч и тысяч моих сверстников, прошедших, как говорится, огонь и воду. Нам бы передать эту жизнестойкость детям и внукам, а мы теперь сами порою становимся похожими на тех дрожащих овец на пожаре: безразличные ко всему, безмолвные. Слово боимся сказать, свое мнение выразить, я уже не говорю о справедливом протесте. Так и будем прозябать в бесправии и бедности?

Пишу о том, что накипело, чем живет моя душа. Обидно видеть смирение перед грубой силой, непонимание простого и очевидного — рыба гниет с головы. Сколько можно слушать рассуждения А.Лукашенко о том, какие белорусы "стабильно" счастливые под его мудрым руководством? Двенадцать дней просидел болельщиком в Нагано, немало денег налогоплательщиков загнал в трубу — и продолжает в том же духе. И многие продолжают верить: мол, старается ради простого народа изо всех сил. А где результат того старания?

Чиновники в своих креслах ого какие оклады имеют — все им мало. Бывший же работяга получает крошечную пенсию — и доволен, и благодарен: как же, не обошли заботой. А вот согласны ли будут его дети на такое нищенское воспомоществование — это вопрос. Они уже знают то, чего не знали и, видимо, не хотят знать их родители и сейчас: как живут такие же работяги в иных странах.

А ведь Беларусь — маленькое государство, и здесь наладить людскую жизнь куда легче, чем, скажем, в громадной России. Но ведь для этого нужны и голова, и труд, и смелость. Этого же нам и не хватает, хотя у нас немало умных и неленивых людей. Так, может, хватит бояться собственной тени, сгибаться до земли перед каждым, кто возомнил себя "паном"?

**Владимир ИГНАТОВИЧ,**
**житель д.Слижи**
**Лидского района.**

## "Несуны" ў медыцынскіх халатах

Здаецца, у нашай краіне не засталося ніводнага месца, адкуль суайчыннікі не спрабавалі б нешта ўкрасці. Пасля нядаўняга паведамлення аб абрабленні нават морга ўжо спакойна, хоць і з агідай успрымаеш тое, чым на працягу больш за два гады займалася медсястра рэанімацыйнага аддзялення Бешанковіцкай цэнтральнай раённай бальніцы Л. Увесь гэты час "нясушка" ў белым халаце паціху выносіла ампулы з лякарствамі, утрымліваючымі наркатычныя рэчывы. Роўна 290 прэпаратаў не атрымалі хворыя, якія мелі ў іх вострую патрэбу. Следства пакуль высвятляе тых, хто карыстаўся паслугамі прадпрымальнай "сястры міласэрнасці", якой пагражае пазбаўленне волі тэрмінам ад 3 да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Крымінальная справа па фактах незаконнага набыцця наркатычных прэпаратаў з мэтай іх продажу ўзбуджана і на фельчара сельскай амбулаторыі з Аршанскага раёна К. Гэты медработнік за год па падробных ільготных рэцэптах здолеў атрымаць з аптэкі крыху менш — толькі 80 ампул эфедрыну. Але няма чаму здзіўляцца, бо нават у бальнічна-паліклінічным аб'яднанні медслужбы абласной міліцыі медпрэпараты з наркатычнымі рэчывамі захоўваюцца з парушэннем неабходных правіл уліку і спісання. Зараз, калі адчуваецца наогул сур'ёзны дэфіцыт лекаў, з'явіцца яшчэ шмат падстаў для злоўжыванняў, як ні ўзмацняй ведамасны кантроль.

**Уладзімір КЛЫШ.**

Крымінал

## "Наварыць" на зварцы не ўдалося

Супрацоўнікі міліцыі Бярэзінскага раёна дапамаглі кіраўніцтву саўгаса "Баравіно" вярнуць украдзеную маёмасць.

Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ва УУС Мінаблвыканкама, фабула здарэння не вызначалася арыгінальнасцю. У спякотную чэрвеньскую ноч з памяшкання малочнай фермы бясследна знік зварачны апарат. Аднак у хуткім часе аператыўнікі вылічылі і затрымалі рабаўнікоў. Гэта два браты з суседняга саўгаса "Уша". Агрэгат вярнулі ўладальнікам.

## Боепрыпасы часоў вайны зноў нагадваюць аб сабе

Адразу два падобныя здарэнні, звязаныя з боепрыпасамі ваенных часоў, зафіксавалі супрацоўнікі міліцыі сталічнай вобласці.

У вёсцы Прылепы Смалявіцкага раёна ў час будаўніцтва жылога дома знайшлі артылерыйскі снарад, які праляжаў у зямлі амаль паўстагоддзя. У той жа дзень пры рамонце моста цераз раку Гаць, недалёка ад вёскі Буда Чэрвеньскага раёна, рабочыя адкапалі 6 мін. Як паведамілі БелТА ва УУС Мінаблвыканкама, на шчасце, у абодвух выпадках небяспечныя скарбы былі абясшкоджаны сапёрамі.

**БелТА.**

## Асуджаны за хабар

У Гродне завяршыўся гучны судовы працэс, а ён працягваўся чатыры з паловіны месяцы, над вялікай групай супрацоўнікаў мясцовай рэгіянальнай мытні і іх саўдзельнікам — непрацуючым мясцовым жыхаром. З васьмі чалавек, якія праходзілі па крымінальнай справе, шасцёра рашэннем суда Кастрычніцкага раёна атрымалі ад 4 да 8 гадоў пазбаўлення волі, прычым пяці з іх прыйдзецца адбываць тэрмін у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яшчэ двое, у тым ліку і непрацуючы, які выконваў ролю падбухторшчыка, асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з абавязковым прыцягненнем да працы. Акрамя таго, у семярых вырашана канфіскаваць маёмасць.

Як стала вядома карэспандэнту БелТА, асуджаныя прызнаны вінаватымі па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса. У прыватнасці, за неаднаразовае атрыманне хабару шляхам вымагання, неаднаразовае даванне хабару, злоўжыванне службовым становішчам, службовую нядбайнасць, махлярства, а таксама за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Пры гэтым супрацоўнікі мытні — начальнік аддзела інспекцыі па асабовым складзе 44-гадовы Уладзімір Патапаў і яго намеснік 34-гадовы Генадзь Марчук — бралі хабар у сваіх жа падначаленых, інспектараў гэтай установы Аляксандра Чаўко, Аляксандра Казлоўскага, Уладзіміра Юшкевіча, Аляксея Брузгіна. Усе чацвёра плацілі за пэўныя паслугі. На мове юрыстаў гэтыя паслугі называюцца патураннем па службе, неправядзеннем раптоўных праверак службовай дзейнасці. Штомесячная такса для кожнага хабарадаўцы складала ад 100 да 200 долараў. У лік аплаты ішлі таксама спіртныя напоі, прадукты харчавання, ювелірныя вырабы. Як устаноўлена следствам, адзін з хабарнікаў атрымаў 114 мільёнаў рублёў, а другі — 23 мільёны.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БелТА.**

Преданность

## Старость в родной деревеньке. Исчезнувшей...



Робинзонами стали жители исчезнувшей восемь лет назад неперспективной деревни Подозбин Петриковского района бывший партизан и фронтовик Илья Афанасьевич Шабалтас и его супруга Зинаида Тихоновна. Пятьдесят лет прожили они вместе и старость свою доживать решили на родном подворье. Земли здесь бери — не хочу, есть в хозяйстве корова, другая живность, пчелы жужжат в огороде.

Все бы хорошо, да трудней стало добираться Илье Афанасьевичу на инвалидном "Запорожце" за семь километров в магазин за хлебом. Бензина дают только 40 литров на полгода и сам на протезе не побежишь, а тут еще госавтоинспекция в Петриков на медкомиссию торопит. Вошли бы в положение персонально, так сказать. Заслужил ведь человек.

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

Подсказываем

# Как избавиться от большой "головной боли" – долгов России за энергоресурсы

**(Окончание. Начало на 1-й стр.)**

— Оно внедрено у нас на линии по сушке ДСП. Уже давно, несколько лет назад. Работает хорошо. Не было поломок, ремонтов, дает большую экономию энергоресурсов.

**Игорь Смирнов,** *заместитель начальника Межобластной газотехнической инспекции "Проматомнадзора".*

— Оборудование фирмы "Кромшредер" соответствует европейским стандартам. Оно качественное, экономичное, безопасное. Хорошо показало себя в России, где его давно внедряют. И экологическим требованиям соответствует.

* * *

По прикидкам специалистов, если бы все предприятия, работающие с газом, внедрили оборудование фирмы "Кромшредер", то "головная боль" Беларуси, вызываемая расчетами за энергоресурсы, исчезла бы, ибо не было бы долгов России за газ. Долги растут не потому, что Беларуси надо много газа, а потому, что он не всегда рационально используется.

### Где ключи от "замкнутого круга"?

То, что в Беларуси большая часть оборудования морально устарела, что немало газа "вылетает в трубу", общеизвестно. Специалистам известно и то, что сократить потери можно с помощью современного оборудования, в том числе и производства фирмы "Кромшредер". Но где взять деньги на его покупку и внедрение? Кто выполнит проектные работы? Ведь предприятия еле-еле находят средства, чтобы рассчитываться за получаемый газ.

Такой вот получается замкнутый круг. У предприятий нет средств для технического перевооружения, потому что огромные суммы они платят за газ. А так как не внедряются передовые технологии, то газ используется нерационально, растут долги за него. Где же выход? Что думают по этому поводу специалисты? Вот их мнение:

**Игорь Тригубович,** *главный энергетик акционерного общества "Керамин":*

— Нужна государственная поддержка программы по энергосбережению. Деньги, выделенные на техническое перевооружение газового хозяйства, быстро окупятся. Предприятия могли бы активнее внедрять передовую технологию, если бы их не давили так налогами. Нужны льготы по налогам тем, кто модернизирует производство.

**Владимир Дубовский,** *директор производственно-коммерческой фирмы "МИГ":*

— Без государственного кредитования, без льгот для предприятий, производящих техническое перевооружение, направленное на снижение потребления энергоносителей, решить эту проблему невозможно. Нужен срочный пересмотр всей нормативной базы и внимание к этой проблеме правительства. Нужны льготные кредиты, льготы по налогу на прибыль, используемую на реконструкцию, направленную на обновление энергетического оборудования, ресурсосбережение, льготы по налогу на добавленную стоимость при ввозе ресурсосберегающей продукции.

Необходимы и другие решительные меры. На Украине, например, в свое время закрывали котельные, термические печи, не обеспечивающие надлежащее использование газа и безопасность работы.

Производство энергосберегающего оборудования можно наладить и в Беларуси. Но для его организации нужны большие средства, которых пока нет в республике. А оборудование необходимо сейчас. Оно помогло бы уже сегодня экономить газ. Фирма "МИГ" и ее германские партнеры готовы оказать помощь в подборе и покупке высокоэффективного современного оборудования.

* * *

Как видим, есть и пути решения сложной и очень важной проблемы. Будем надеяться, что в правительстве внимательно прислушаются к мнению специалистов и сделают все возможное, чтобы ускорить реконструкцию газового хозяйства и обеспечить экономное использование энергоносителей, что в конечном счете улучшит жизнь каждого из нас.

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

## Дзеля выгады пагрэбавалі здароўем людзей

Небывалы па драматызму і накалу страсцей канфлікт некалькі месяцаў запар працягваецца паміж адміністрацыяй і рабочымі АТ "Орша". У пачатку года, пасля таго як адна з работніц атрымала тут атручванне на працоўным месцы, абурылася брыгада жанчын цэха са шкоднымі ўмовамі працы. Яны не толькі законна запатрабавалі стварыць належныя ўмовы працы, але і дамагліся ад санітарнай службы горада зняць з вытворчасці выгадны для завода, але шкодны для здароўя заказ па фарбаванні свяцільнікаў за межамі спецыяльных машын. У адплату адміністрацыя пераявіла найбольш актыўных арганізатараў акцыі пратэсту на працу ў іншы цэх і пазбавіла тым самым іх права на льготную пенсію. Праз суд жанчыны дамагліся адмены незаконнага загада і свайго аднаўлення на ранейшым месцы працы. Праз некаторы час ім зноў прапанавалі перавод у той цэх быццам па вытворчай неабходнасці, але, калі тыя адмовіліся, траіх жанчын звольнілі з працы ўжо з захаваннем неабходных працэдур. Бачачы такое яўнае жаданне помсты непакорным і адкрытую пазіцыю неўмяшання ў канфлікт афіцыйных прафсаюзаў, уся гэтая брыгада ў поўным складзе выйшла з галіновага прафсаюза і ўступіла ў свабодны прафсаюз. А ў звольненых актывістак уся надзея цяпер на суд, куды яны ў чарговы раз звярнуліся з іскавай заявай.

**Уладзімір ШАЎЦОЎ.**

Памежжа

## З "ліпай" на граніцы рабіць няма чаго

Спробы грамадзян розных краін выехаць на Захад праз Брэст па фальшывых дакументах не спыняюцца. Як паведамілі супрацоўнікі атрада пагранічнага кантролю, унаЧы 17 чэрвеня ў поездзе "Масква — Берлін" былі выяўлены трое жыхароў Перу, якія спрабавалі трапіць у Германію па падробленых пашпартах грамадзян Чылі. А крыху раней пры спробе перасячэння беларуска-польскай граніцы была затрымана грамадзянка ЗША, у пашпарце якой аказалася фальшывая віза Расійскай Федэрацыі. Ды і сама законнасць атрымання гэтага дакумента выклікала ў брэсцкіх пагранічнікаў падазрэнне. 20-гадовая негрыцянка, як і перуанцы, была адпраўлена ў Маскву.

Такія факты на заходняй граніцы здараюцца амаль што ні кожны дзень. Большасць ліпавых дакументаў выяўляецца ў жыхароў афраазіяцкіх краін.

**Іван КУКСА.**

## Да дзелавых жанчын у Швецыі асаблівыя адносіны

Беспрацоўныя складаюць у Швецыі амаль дзевяць працэнтаў працаздольнага насельніцтва. Большасць з іх — жанчыны. Аднак дзяржаву, мяркуючы па ўсім, такая сітуацыя не вельмі задавальняе. Каб дапамагчы жанчынам працаўладкавацца, кіраўніцтва краіны прымае канкрэтныя меры для таго, каб прадстаўніцы прыгожай палавіны чалавецтва маглі пачаць сваю справу.

Статыстыка сведчыць, што кожная трэцяя жанчына, якая адкрыла ў мінулым годзе ўласную фірму ў Швецыі, была да гэтага беспрацоўнай. Усяго ж у 1997 годзе жанчыны адкрылі ў краіне крыху больш чым 8000 фірм. І такую прадпрымальнасць з іх боку можна поўнасцю растлумачыць. У Швецыі любая жанчына, якая хоча пачаць сваю справу, можа атрымаць бясплатныя юрыдычныя і эканамічныя кансультацыі, частковую матэрыяльную падтрымку, а таксама прайсці бясплатныя бухгалтарскія і камп'ютэрныя курсы.

**Інэса МОІН, БелТА.**

Здарэнні

## Нашэсце вусеняў выклікала перапалох

Нядоўгім быў перапалох сярод жыхароў вёскі Якаўчыцы Жабінкаўскага раёна, выкліканы нашэсцем вусеняў. Тым больш што масла ў агонь падлілі паведамленні расійскіх тэлеканалаў аб тым, што быццам бы ёсць чалавечыя ахвяры. Аднак трывожныя чуткі распаўсюджваліся да таго часу, пакуль у работу не ўключыліся мясцовыя медыкі, да якіх за дапамогай звярнуліся 12 чалавек. Большасці з пацыентаў моцны сверб, выкліканы нападаннем вусеняў на цела, удалося зняць з дапамогай звычайнага дымедролу і толькі некаторым з іх прыйшлося зрабіць уколы.

Прычына хвалявання — нашэсце вусеняў залатагузкі на вясковыя сады, многія з якіх запушчаныя. Трапляючы на цела чалавека, насякомыя выклікаюць вострую алергію. На думку спецыялістаў з раённай станцыі аховы раслін, змагацца з залатагузкай можна з дапамогай звычайных хімічных сродкаў. Не прымяняліся ж яны таму, што ў садах спее ўраджай, а на падвор'ях гуляюць гусі і куры.

Цяпер пік нашэсця вусеняў ужо праходзіць, бо яны ператвараюцца ў кукалак. Тым не менш, санітарныя ўрачы парэкамендавалі мясцовым жыхарам у далейшым рабіць своечасовую абрэзку сухіх галінак у садах, здымаць коканы шкоднікаў і вясной апрацоўваць дрэвы неабходнымі прэпаратамі.

**Іван КУКСА, БелТА.**

*Каждый год только в белорусской столице собаки кусают 5-6 тысяч человек. Из тех, кто кусал, лишь десятая часть — бездомные псы, остальные существа имеют хозяев и вовсе не от жизни собачьей так жестоко высказывают свою нелюбовь к роду человеческому.*



# СОБАКА: друг или СТРАХ?..

...Восьмилетний Саша катался во дворе на качелях. Вдруг, взлетая ввысь, мальчик увидел, как к нему несется разъяренная немецкая овчарка. Саша не успел опомниться, как собака схватила его за ногу. Скорее от страха, чем от боли, мальчик дико заорал. Но собаку крик ребенка не остановил, и второй раз она схватила Сашу за брюки. Мальчика спасло то, что со стороны соседнего дома пса окликнула девочка-подросток. На какое-то мгновение собака оторвалась от своей жертвы, и Саша, не раздумывая ни секунды, помчался домой.

Дома, плача навзрыд, он пытался объяснить перепуганной матери, что произошло.

К счастью, укус был не сильный, рану обработали в домашних условиях. Во дворе женщина выяснила, где живут хозяева четвероногого обидчика сына.

— Ваш мальчик сам спровоцировал нападение пса, — таким заявлением встретила Сашину маму хозяйка собаки. — Не надо было кататься на качелях. Наш песик — существо безобидное, он очень любит детей.

Выяснять отношения родительница не стала. Ее интересовало только то, что собака здорова и вести сына в поликлинику не надо.

Для Саши подобное знакомство с овчаркой не прошло бесследно. Он стал плохо спать, часто просыпался по ночам, боялся один выходить на улицу. При виде даже самой безобидной собачонки его охватывало леденящее чувство страха. Знакомые советовали родителям Саши обратиться в суд и наказать хозяев овчарки. Но они этого делать не стали, опасаясь, что судебные тяжбы еще сильнее травмируют сына.

### Вовсе не от жизни собачьей...

К сожалению, в последнее время случаи нападения собак на людей участились. Примечательно то, что кусают нас в основном не бездомные псы, а те собачки, кому совсем неплохо живется под крылышком у своих хозяев.

Стоит отметить, что зачастую нападение собаки действительно провоцируют сами люди, и особенно дети. Например, из всех укушенных в столице ребятня составляет примерно третью часть. И как правило, едва ли не всегда малышам достается от их верных и любимых друзей. Резвясь с четвероногим существом, ребята хватают собачек за хвостик или ушки, дразнят их. Такие "безобидные" игры собачку раздражают, и доведенный до белого каления песик может цапнуть ребенка за руку или ногу. Причем не терпят такого отношения к себе не только псы бойцовских пород, но и безобидные колли и спаниели.

Не так редки случаи, когда собака нападает на человека неожиданно. Как говорится, шел спокойно, никого не трогал, и вдруг откуда ни возьмись вылетела собака и бросилась на тебя. Хорошо, если она была при "хозяине" — собачку можно проверить. А если схватила бездомная дворняжка... Ее-то не проверишь.

Если, не дай Бог, вам досталось от собаки, следует немедленно обратиться к врачу. Во-первых, укусы животных плохо заживают. Кроме того, при укусах собаки всегда есть опасность заразиться бешенством. Причем, как говорят специалисты, не только тогда, когда вы пострадали от неизвестной собаки. Страшный вирус может "дремать" и в организме вашего домашнего пса. Например, выехали вы со своим питомцем на дачу и выпустили его порезвиться. С кем контактировала ваша собачка, вы, конечно, не знаете. А если песик не привит, то подхватить может все что угодно...

### Бешенство не лечится. Единственное спасение — это прививки

В поликлинике всех укушенных направляют в травмопункт. Там хирурги не только обрабатывают рану, но и выясняют, при каких обстоятельствах собака укусила человека. Если существует хоть малейшее подозрение, что собака была больна, пострадавшего посылают в антирабический кабинет (от лат. rabio — бешенство).

В Минске таких кабинетов десять. В четырех ведется прием взрослого населения столицы, в шести — детей. А ведь не так давно антирабических кабинетов было только два на весь город.

— Укушенных стало больше, — говорит ***Наталья Георгиевна Минина, сотрудник отдела особо опасных инфекций городского Центра гигиены и эпидемиологии.*** — И люди стали более внимательно относиться к своему здоровью. Раньше обращались в поликлинику в крайних случаях, теперь иной раз человек приходит к врачу даже тогда, когда его лишь слегка царапнула незнакомая собака.

*— Наверное, это неплохо?*

— Конечно. Опасность заразиться бешенством существует всегда. А способов избавления от болезни никто не знает. Единственное спасение — это прививки. И то, если они назначены своевременно. Если не принять немедленных мер, зараженный бешенством человек умирает.

*— Как вам удается определить, следует ли обратившемуся к вам посетителю назначать курс прививок?*

— К каждому пациенту мы подходим индивидуально. У нас есть свои схемы, параметры, по которым мы определяем, существует ли для укушенного опасность заразиться страшной инфекцией. Как правило, обязательно назначаем курс прививок, если собака укусила человека за пальцы рук или лицо.

*— Всегда считалось, что прививки против бешенства небезвредны для нашего организма. Как быть с этим?*

— Я помню, когда была студенткой, на первом курсе нам говорили: "Все лекарства — яды, и всё зависит от того, в каком количестве и к месту ли ты его принимаешь".

Сейчас антирабическая вакцина очень хорошая, очищенная. Мы получаем ее из Москвы. Кроме того, в работе помогает современная аппаратура. Предупреждение бешенства стало делом обычным и не столь сложным, как раньше. Словом, бояться прививок не стоит.

В принципе, случаи заражения бешенством среди людей — явление редкое. И тем не менее сигналы об этой напасти поступают со всех уголков мира. Не исключение и Беларусь.

Несколько лет назад в Гродненской области от бешенства умерла женщина. Пошла как-то в лес по грибы и встретила лису: красивую, рыжую, как с картинки. Стала и загляделась. Хищница тоже не двигалась с места и подозрительно доверчиво глядела на женщину. Когда та подошла к ней совсем близко, лисица вдруг вскочила и укусила ее за руку. Рана была неглубокой, женщина никуда не обращалась, а спустя две недели умерла в муках от бешенства.

В Беларуси, к слову, опасность бешенства исходит в основном от лис, и неблагополучна в этом плане Витебская область. Но опасность заразиться от собак тоже существует. И в первую очередь — от бродячих.

### Собачка покусала — готовь, хозяин, денежки

"Собачья тема" непростая. Домашние животные были и всегда будут поводом для обоюдных истерик. Одни считают, что собак надо защищать, другие с пеной у рта доказывают, что "шариков и бобиков" развелось непозволительно много и защищать надо людей, страдающих от собак.

Государство старается придерживаться середины и пытается отрегулировать взаимоотношения людей с четвероногими друзьями нормами права.

Помимо статей в Административном и Гражданском кодексах Республики Беларусь, существует положение, определяющее порядок регистрации собак, размеры и сроки взимания сборов с их владельцев, а также правила содержания домашних животных.

К слову, правила содержания достаточно строгие. Если бы все владельцы собак их придерживались, безусловно, жертв собачьей немилости было бы значительно меньше.

Например, в городах выгуливать собак надо на специально отведенных для выгула площадках. Если владелец "выводит в свет" своего четвероногого друга без намордника и поводка, он может схлопотать штраф в размере до пяти минимальных зарплат.

Но, похоже, хозяева собак не очень пугаются материального наказания. Во-первых, редко кто из прохожих поспешит в милицейский участок "настучать" на хозяина собаки. Во-вторых, у владельцев домашних животных есть один веский аргумент в свою защиту: где те площадки, куда он должен вести на выгул своего питомца? И возразить ему очень сложно. Потому что, действительно, число четвероногих жителей столицы велико, а площадок для выгула животных практически нет.

Стоит признать, что сегодня в столице владельцы собак в общественные места стараются выводить своих питомцев на поводке и в наморднике. А вот положить конец произволу собак, без зазрения совести пачкающих улицы и скверы наших городов, пока не получается. Хотя за то, что животные на каждом шагу оставляют свои "визитки", их владельцев можно привлечь к административной ответственности. Ведь по существующим правилам выгула хозяин собаки "должен иметь совок и полиэтиленовый мешок для сбора и утилизации собачьих экскрементов".

Ну а если собака кого-то покусает, то пострадавший вправе подавать гражданский иск в суд и требовать возмещения всевозможных ущербов с хозяина собаки.

В прошлом году в Минске ротвейлер сильно искусал девочку. Пластическая операция на лице обошлась ее родителям в две тысячи долларов. И суд взыскал с владельца собаки эту сумму.

В большинстве своем мы не знаем своих прав и не обращаемся в суд, когда становимся жертвами собачьей немилости. Мне не раз приходилось слышать, что если бы подобных заявлений было побольше, владельцы собак лучше смотрели бы за своими питомцами. Потому что в первую очередь они виновны в том, что их собачки кусаются.

Отдельный разговор о бездомных собаках. В ответе за них тоже мы, люди. Потому как большинство из них — жертвы человеческого предательства. Сначала завели собачку, а потом без зазрения совести выгнали ее на улицу, позволили рыскать по помойкам, прозябать на свалках. А если беспризорные собаки организовались в стаю, стали опасными хищниками и кого-то покусали? Городские власти их отстреливают. А мы возмущаемся таким жестоким отношением к живым существам. А где были раньше? О чем думали, когда выгоняли четвероногого друга на улицу?..

*Мы в ответе за тех, кого приручили...*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

